№ 212 (794)

Аўторак, 16 лістапада 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб.,
па падпісцы — 18000 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**Ідзе падпіска на першую палову 2000 года.**

**Застаёмся разам!**



**У Расіі за тону малака сяляне могуць купіць тону дызельнага паліва, у краінах Еўрапейскага Саюза — 2 тоны, а ў Беларусі — толькі 330 кілаграмаў.**

**Цяпер для набыцця тэхнікі, угнаенняў, паліва, будаўнічых матэрыялаў нашым калгасам і саўгасам трэба прадаць у 4,4 раза болей сваёй прадукцыі, чым у 1990 годзе. Калі кошт трактара МТЗ-82 падняўся ў 3 мільёны разоў, то збожжа — усяго ў 423 тысячы разоў, свініны — толькі ў 262 тысячы разоў. За апошнія дзевяць гадоў з-за дыспарытэту цэн вёска згубіла 145 трыльёнаў рублёў.**

**Колькі можна дзяржаве здзекавацца з бедных сялян?**

Из первых уст

## Василий Старовойтов уезжать из Беларуси и просить политического убежища за границей не намерен

В Оршанской колонии УЖ15/8, где отбывал свой срок тюремного заключения Василий Старовойтов, содержится без малого 5000 заключенных. Все — люди трудоспособного возраста. Пенсионеров среди них лишь около сотни — менее двух процентов. 75-летний Василий Константинович Старовойтов даже среди них был аксакалом. Ведь в его возрасте к такому наказанию, как лишение свободы, приговаривают лишь за убийство и за... политическую деятельность.

Вообще-то, до своего ареста крупный хозяйственник В.Старовойтов политической деятельностью не занимался. На это у него просто-напросто не было времени. Но нынешний белорусский режим с завидным упорством занимается расширенным воспроизводством своих политических могильщиков. Василию Константиновичу запретили занимать руководящие должности, и ему больше ничего не остается, как заняться литературно-политической деятельностью.

А сказать дважды Герою Социалистического Труда есть что. Его "Рассвет", в условиях экономического кризиса и безудержной инфляции, не занимая у государства кредитов, не только удержался на плаву, но из года в год увеличивал производство продукции. А за два года, прошедшие после ареста Василия Старовойтова, власти безрезультатно вложили в "Рассвет" более 500 миллиардов рублей. И вовсе не потому, что назначенный властью руководитель не умеет руководить. Он не способен возражать власти. А любое хозяйство, которым рулит во всем соглашающийся с приказами "вертикали" руководитель, обречено на прозябание.

Пока же Василий Константинович рассказывал примчавшимся из столицы журналистам, что в оршанской колонии заключенных в несколько раз более расчетной нормы. На одного заключенного приходится лишь 1,2 квадратного метра площади — меньше, чем на кладбище. В тюремной "хате" было 36 зэков. Койки расположены в два-три яруса. Постоянная нехватка кислорода. Площадка для прогулки, называемая локалкой, составляет 10х18 метров. Покидать ее пределы запрещено под страхом наказания.

Василий Старовойтов был примерным заключенным: за пределы локалки не выходил, в пререкания с начальством не вступал, тюремный режим не нарушал. По заявлению начальника спецчасти колонии майора Л.Шитика, не имел ни одной порочащей записи в личном деле. Тем не менее тюремное начальство, выпуская Василия Старовойтова на свободу, поставило в справке штамп: выпускается под надзор районной милиции. Обычно это делается в отношении злостных нарушителей дисциплины, закоренелых преступников.

Отвечая на вопрос журналистов, Василий Константинович заявил, что не намерен уезжать из Беларуси и просить политического убежища за границей. И дело вовсе не в том, что, как лицо, находящее под надзором, он не может выехать из страны. Василий Старовойтов намерен начать кампанию по восстановлению своего имени. Для честного человека обвинения в присвоении пяти машин, пяти квартир, пяти... — меньших цифр в перечислении похищенного, присвоенного, разбазаренного нет, тяжелее самого наказания.



Василий Константинович показывает журналистам справку об освобождении.

Фото IREX/ProMedia.

Особо, как подчеркнул дважды Герой Труда, власти оберегали его пиджак с орденами — не доведи господи в звериной клетке на скамье подсудимых появился бы Василий Старовойтов в этом пиджаке с орденами и золотыми звездами на груди.

С грустью обходил Василий Константинович свой опустевший от домашней утвари дом. Но если утрата мебели, посуды, картин — дело восполнимое, то разграбленную властями библиотеку за оставшиеся ему годы жизни восстановить уже вряд ли удастся.

**Валерий ЩУКИН.**

В.Старавойтаву, паводле ягоных слоў, тэлефанавалі дзесяткі людзей і віншавалі з вызваленнем. Сярод іх быў, у прыватнасці, кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ Ханс-Георг Вік, які выказаў жаданне сустрэцца з В.Старавойтавым бліжэйшымі днямі.

В.Старавойтаў паведаміў, што прыкладна за тыдзень да вызвалення з ім сустрэўся міністр унутраных спраў Беларусі Юрый Сівакоў, які наведаў аршанскую калонію. Размова ішла на агульныя тэмы.

Падчас гэтай сустрэчы В.Старавойтаў звярнуўся да міністра з просьбай далажыць пра сітуцыю ў турмах асабіста А.Лукашэнку. Што непасрэдна да аршанскай калоніі, то, паводле слоў В.Старавойтава, яна перапоўнена... Усяго ж у краіне, паводле сцвярджэння міністра ўнутраных спраў, каля 100.000 зняволеных.

"Працэнтаў 50 з іх можна выпусціць, — лічыць В.Старавойтаў. — За што сядзяць гэтыя людзі? Выкраў 15 бутэлек — атрымай тры гады... Зараз на "зоне" працы мала і сядзяць гэтыя здаровыя мужыкі, нічога не робяць, толькі хлеб праядаюць. Людзі раззлаваныя, незадаволеныя, але пакуль маўчаць. Ад іх, канешне, А.Лукашэнка падтрымкі ўжо не атрымае".

Нарэшце, экс-кіраўнік "Рассвета" сумняваецца, што ягоныя словы дойдуць да прэзідэнта, а калі і дойдуць, то ён іх не пачуе. Сам ён пасля сустрэчы з Ю.Сіваковым зрабіў вывад аб тым, што ўлады усё ж некалькі змянілі да яго стаўленне. "Яны зразумелі, што ўзвялі на мяне паклёп, — лічыць В.Старавойтаў. — Я не краў 5 мільярдаў, у мяне няма пяці машын і пяці кватэр. У мяне былі зберажэнні, якія я ўнёс на рахунак акцыянернага прадпрыемства "Рассвет", як і яшчэ 450 чалавек; усяго ўнеслі 300 мільярдаў. Зараз гэтыя сродкі арыштаваныя". Прычынай свайго арышту В.Старавойтаў лічыць асабістую помсту А.Лукашэнкі за тое, што кіраўнік "Рассвета" не падтрымаў яго падчас прэзідэнцкіх выбараў.

Бліжэйшым часам В.Старавойтаў мае намер знаходзіцца ў Мышкавічах, адпачыць і падлячыцца. На здароўе ён не скардзіўся. У зняволенні трымаўся, як мог, толькі баяўся інсульта: "Там, калі не будзеш трымацца, дасі слабіну — загінеш".

В.Старавойтаў катэгарычна не жадае ўдзельнічаць як сведка ў судовым працэсе над былым міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васілём Лявонавым. Ён таксама не гатовы зараз адказаць, ці будзе абскарджваць прысуд Кіраўскага раённага суда, паколькі лічыць, што пры цяперашнім стане судовай сістэмы краіны гэта марнаванне часу.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Марш протеста к посольствам западных стран

Совет первичной организации Свободного профсоюза металлистов (СПМ) Минского автомобильного завода подал в Мингорисполком заявку на проведение 24 ноября Марша протеста в форме шествия к посольствам США, России, Германии, Великобритании, Италии и Франции. Целью проведения этой акции является выражение протеста против незаконных действий администрации МАЗа и местных органов власти, которые препятствуют регистрации профсоюзной ячейки предприятия.

Как сообщили БелаПАН в свободном профсоюзе металлистов, эта организация была перерегистрирована в Министерстве юстиции 2 сентября. Совет СПМ в свою очередь провел перерегистрацию своих ячеек; при этом были учтены требования нового гражданского кодекса РБ. Таким образом, при совете СПМ была зарегистрирована ячейка Свободного профсоюза металлистов МАЗ, о чем выдано соответствующее удостоверение. Теперь, для выполнения всех норм действующего законодательства, "первичку" необходимо поставить на учет в администрации Заводского района Минска. Необходимым для этого условием служит предоставление юридического адреса администрацией МАЗа, в чем последняя необоснованно отказывает профсоюзу. В свою очередь администрация Заводского района Минска сообщила, что постановка на учет "первички" отложена на два месяца.

По мнению друзей профсоюза, эти действия чиновников нарушают Конвенции международной организации труда. По задумке организаторов Марша протеста, который должен начаться 24 ноября в 11.00 от центральной проходной МАЗа, послам вышеуказанных государств будет вручено обращение о нарушении гражданских прав в области деятельности профессиональных союзов.

**Хартия'97.**

## Чаму ў Беларусі нездавальняючая сітуацыя

Як вядома, Кансультацыйна-назіральная група Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (КНГ АБСЕ), правёўшы маніторынг парушэнняў правоў чалавека ў краіне, ацаніла выкананне гэтых правоў як нездавальняючае. Пра гэта заявіў намеснік кіраўніка кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханспетэр Кляйнер, выступаючы на міжнародным семінары "Правы чалавека: стан і перспектывы". На думку прадстаўніка міжнароднай арганізацыі, Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК) павінен не толькі весці хроніку парушэнняў правоў чалавека, але і нагадваць афіцыйным асобам пра іх службовыя абавязкі, указваць ім на парушэнні правоў чалавека.

На думку сп.Кляйнера, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі нездавальняючая не столькі таму, што міліцыя збівае дэманстрантаў, а хутчэй таму, што ў Беларусі могуць адбывацца "нейкія злачынныя дзеянні", а сродкі масавай інфармацыі не маюць магчымасці іх асвятліць — з-за таго, што незалежныя газеты, хаця і існуюць, але іх "магчымасці даволі абмежаваныя", а іншыя газеты "не з'яўляюцца незалежнымі ад прэзідэнцкай улады". У сувязі з гэтым прадстаўнік КНГ АБСЕ ў Беларусі лічыць важным стварэнне ў рэспубліцы ўмоў для працы незалежнай прэсы, што, на ягоную думку, прывяло б да паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека, дазволіла б правесці свабодныя і дэмакратычныя выбары.

Старшыня БХК Таццяна Процька паведаміла ў сваёй прамове, што камітэт прыняў прапанову вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава стварыць і весці "Шэрую кнігу" персанальных парушэнняў правоў чалавека, што ўчыняюцца прадстаўнікамі беларускіх улад.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

## Вярхоўны суд Беларусі адмовіў у змяненні меры стрымання экс-міністру сельскай гаспадаркі і харчавання В.Лявонаву



Вярхоўны суд Беларусі адмовіў у змяненні меры стрымання быломý міністру сельскай гаспадаркі і харчавання краіны Васілю Лявонаву.

Як паведаміла БелаПАН Святлана Уласава, абаронца і дачка В.Лявонава, з хадайніцтвам аб змяненні меры стрымання абарона звярнулася на чарговым пасяджэнні Вярхоўнага суда краіны 11 лістапада — у гэты дзень споўнілася роўна два гады з моманту арышту былога міністра. Нагадаем, што В.Лявонаў абвінавачваецца паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, самы сур'ёзны з якіх — крадзяжы ў асоба буйных памерах.

Паводле слоў С.Уласавай, у хадайніцтве абарона прывяла шэраг доказаў, сярод якіх — стан здароўя В.Лявонава; тое, што ў выпадку станоўчага рашэння суда ён не збіраецца пазбягаць судовых пасяджэнняў, а таксама станоўчыя характарыстыкі экс-міністра з боку калег — прычым як былых, так і тых, хто па-ранейшаму працуе ў міністэрстве. С.Уласава асабліва падкрэсліла значнасць апошняй акалічнасці: таго, што цяпер чыноўнікі не пабаяліся даць станоўчыя водгукі пра падсуднага.

Супраць змянення меры стрымання В.Лявонаву выступіў пракурор Іван Шэдаў. Пасля амаль гадзіннай нарады Вярхоўны суд РБ вынес рашэнне адмовіць у хадайніцтве, матывуючы гэта тым, што артыкулы, якія інкрымінуюцца В.Лявонаву, прадугледжваюць меру стрымання ў выглядзе арышту.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

Крымінал

## Злачынца, які рабіў ін'екцыі дзецям у аздараўленчых лагерах, выглядае цалкам рэспектабельным грамадзянінам

Рэспектабельным грамадзянінам выглядае злачынца, які на працягу больш як двух месяцаў перыядычна пранікаў у дзіцячыя аздараўленчыя лагеры, што размешчаны на тэрыторыі шэрагу раёнаў Мінскай вобласці, і рабіў ін'екцыі дзецям. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў начальнік упраўлення крымінальнага вышуку (УКВ) Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, палкоўнік міліцыі Юрый Гайдаш.

Нагадаем, што жыхар Мінска Х. быў затрыманы ноччу 29 кастрычніка на тэрыторыі дзіцячага аздараўленчага лагера "Дружба", паблізу вёскі Ракаў Валожынскага раёна Мінскай вобласці, участковым інспектарам інспекцыі па справах непаўналетніх Валожынскага РАУС, старшым лейтэнантам А.Шэбаліным. Пры аглядзе месца здарэння была знойдзена паясная сумка, у якой знаходзіліся аднаразовы шпрыц, флакон з невядомай бясколернай вадкасцю, вязаная чорная шапачка, пальчаткі, ручка для адкрыцця ваконных рам і газавы пісталет з пяццю патронамі.

Паводле слоў Ю.Гайдаша, затрыманаму 50 гадоў, ён з'яўляецца ўладальнікам двух камерцыйных фірм, мае дзве кватэры, некалькі аўтамабіляў і ніколі не меў інцыдэнтаў з праваахоўнымі органамі.

Што тычыцца ін'екцый, якія злачынца ўводзіў дзецям, то, паводле слоў начальніка УКВ МУС, яны мелі дачыненне да групы супакойваючых прэпаратаў. Матывы такіх неардынарных паводзін "рэспектабельнага грамадзяніна" зараз высвятляюцца.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

[1] Пр. Агапія, Георгія, Іосіфа.
[1] К. Гертруды, Малгажаты, Эдмунда.

**85 гадоў з дня нараджэння Язэпа Семяжона** (сапр. І. І. Семяжонаў; 1914—1990), беларускага перакладчыка.

ЛІСТАПАД
**16**
'99 АЎТОРАК

☉ Усход 7.40, Захад 16.09, Даўж. дня 8.29

☽ Перш. квадра 11.03, Усход 14.46, Захад —

## Памёр суддзя, які стаў насуперак ціску мясцовых чыноўнікаў

У Буда-Кашалёўскай справе аб падманутых мясцовым прадпрыемствам Белкаапсаюза ўкладчыках з'явіўся новы, трагічны паварот. 12 лістапада адбылося пахаванне 55-гадовага суддзі Буда-Кашалёўскага раённага суда Івана Нічыпарука, які вёў гэтую справу.

Іван Ільіч памёр у мінулую сераду, прама на рабочым месцы; па заключэнні ўрачоў, у яго "не вытрымала" сэрца. Ніхто не бярэцца сцвярджаць, што такія наступствы пацягнулі за сабою бясконцыя нападкі гомельскіх чыноўнікаў на суддзю, які стаў на абарону падманутых укладчыкаў і не падтрымліваў ведамасныя інтарэсы асобных дзяржорганаў.

Як раней паведамляў БелаПАН, сваёй пастановай суд прызначыў фінансавую экспертызу мэтавага выкарыстання сродкаў, якія браліся Буда-Кашалёўскай міжрайбазай Белкаапсаюза ва ўласных работнікаў і насельніцтва райцэнтра і якія прадпрыемства не першы год не жадае вярнуць укладчыкам.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Стоп-кадр




Вот так встречает гостей родина Феликса Дзержинского — городской поселок Ивенец Минской области: белоцветные буквы по красной черепице. Это уже не общественный забор, где напоминание о собственной стране немедленно замазывается черной краской. В данном конкретном случае любимый народом и непочитаемый властями призыв "Жыве Беларусь!" ликвидировать можно только вместе с крышей.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

*Фото Владимира Кормилкина.*

## Расійскі МЗС уведаміў беларускі бок аб парадку перамяшчэння праз мытную мяжу Расіі наяўнай замежнай валюты

У сувязі з прыняццем Федэральнага Закона "Аб унясенні дапаўненняў у Закон Расійскай Федэрацыі "Аб валютным рэгуляванні і валютным кантролі" МЗС Расійскай Федэрацыі ўведаміў беларускі бок аб парадку перамяшчэння праз мытную мяжу Расійскай Федэрацыі наяўнай замежнай валюты грамадзянамі замежных дзяржаў.

Так, у адпаведнасці са згаданым законам, увоз наяўнай замежнай валюты ў Расійскую Федэрацыю фізічнымі асобамі-нерэзідэнтамі ажыццяўляецца без абмежаванняў. Пісьмовае дэкляраванне ўвозімай наяўнай замежнай валюты робіцца па жаданні фізічнай асобы.

Фізічныя асобы-нерэзідэнты могуць вывозіць з Расійскай Федэрацыі наяўную замежную валюту ў межах сумы, раней увезенай або пераведзенай праз банк у Расійскую Федэрацыю, з прадстаўленнем дакументаў, якія б пацвярджалі яе ўвоз або перавод у Расію.

Пры вывазе з Расіі наяўнай замежнай валюты, раней увезенай у Расійскую Федэрацыю з Рэспублікі Беларусь, падставай для вывазу з'яўляюцца:

— даведка формы, выдадзеная ўпаўнаважаным банкам Рэспублікі Беларусь;

— аформленая мытным органам Рэспублікі Беларусь мытная дэкларацыя, што пацвярджае ўвоз замежнай валюты фізічнай асобай на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь.

Пры адсутнасці ў фізічнай асобы-нерэзідэнта дакументаў, якія б пацвярджалі ўвоз або перавод замежнай валюты, вываз наяўнай замежнай валюты не дазваляецца. Указаная замежная валюта можа быць перададзена суправаджаючай асобе або прынята на захоўванне мытным органам.

Фізічныя асобы могуць без абмежаванняў вывозіць з Расійскай Федэрацыі крэдытныя і дэбетныя карты, а таксама дарожныя чэкі.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

## З 20 па 30 лістапада пройдзе традыцыйны фестываль "Беларуская музычная восень"

Як паведаміў на прайшоўшай у Мінску прэс-канферэнцыі мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі заслужаны артыст Беларусі Юрый Гільдзюк, у межах фестывалю пройдуць Дні Расійскай Федэрацыі, якую будуць прадстаўляць вельмі цікавыя калектывы — Дзяржаўны акадэмічны рускі хор імя А.Свешнікава, дырыжор і піяніст, лаўрэат усерасійскага і міжнародных конкурсаў Станіслаў Дзьячэнка, лаўрэат усесаюзнага конкурсу імя Глінкі, салістка Вялікага тэатра Расіі Людміла Тагушава, салістка Маскоўскага музычнага тэатра "Гелікон-опера" Кацярына Васіленка, саліст Маскоўскага акадэмічнага музычнага тэатра імя К.Станіслаўскага і Ул.Неміровіча-Данчанкі Уладзімір Байкоў.

Разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам ягонага мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Дзмітрыя Зубава (Расія), а таксама лаўрэатам нацыянальнага конкурсу флейтыстам Яўгенам Віданавым яны возьмуць удзел у канцэрце памяці заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі, заслужанага артыста Беларусі, дырыжора, прафесара Віталя Катаева.

У Мінск прыедзе любіміца многіх меламанаў спявачка Ліна Мкртчан. Трыо імя Рахманінава з Масквы выканае творы Шумана, Ліста, Чайкоўскага. Пройдуць таксама канцэрты лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Антона Сарокава (скрыпка) і Марыі Цяцерынай.

Фестываль адкрыецца канцэртам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, якім будзе дырыжыраваць народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Міхаіл Казінец. У гэты вечар упершыню прагучыць новы твор беларускага кампазітара Андрэя Мдзівані — вакальна-сімфанічныя сцэны па Дантэ, Гамеру, Віргілію. Лаўрэат міжнародных конкурсаў піяніст Андрэй Сікорскі выканае з аркестрам канцэрт №3 для фартэпіяна з аркестрам Сяргея Рахманінава. Выступіць у Мінску выдатны расійскі піяніст, лаўрэат конкурсу імя Чайкоўскага Барыс Беразоўскі, які зараз жыве ў Англіі.

У фестывалі возьмуць удзел ансамбль салістаў Беларусі "Класік-авангард", таленавіты віяланчэліст з Расіі Марк Драбоўскі, які зараз жыве ў Францыі, дырыжор з Нарвегіі Роальд Санголт. Завершыцца фестываль канцэртам сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі "Маладая Беларусь" пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца.

**Вера КРОЗ.**

Здарэнні

## У Віцебскай вобласці жывымі згарэлі чацвёра рабочых дзяржпрадпрыемства "Вадалаз"

Трагедыя здарылася 10 лістапада, каля 15.00, пры выездзе рабочых з горада Паставы (Віцебская вобласць), дзе яны завяршылі рэканструкцыю мясцовага ачыстнога збудавання. Шэсць чалавек у кунге (будцы) пераабсталяванага ваеннага аўтамабіля "Урал-4320" вярталіся з камандзіроўкі дадому, у Віцебск.

Да заканчэння следства спецыялісты могуць толькі здагадвацца, што ў выніку штуршка пры руху аўтамабіля быў пашкоджаны рэдуктар кіслароднага балона, які знаходзіўся ў кунге. Выцекшы кісларод мог выклікаць рэзкае запальванне абсталяванай тут жа, у тамбуры, часовай печкі, а потым адбыўся выбух 40-літровага балона з прапанам, які стаяў побач.

Адзін рабочы паспеў выскачыць з машыны да выбуху. Акрамя выпадковых сведкаў, усё гэта бачылі шафёр і яшчэ два рабочыя, якія, выскачыўшы з кабіны "Урала", спрабавалі выратаваць таварышаў.

Пятага чалавека з палаючай машыны дасталі жывым і ён, з 80-працэнтным апёкам цела, быў дастаўлены ў бальніцу.

**Леанід СІМАНАЎ.**

Строки из писем

## Я против

Я против единения с Россией. Я не хочу жить в сверхдержаве. Не хочу, чтоб мои дети и внуки умирали в "горячих точках".

**Владимир МОШНЕНКО, рабочий.**

Минск.

## Я не хочу!

Я не хочу, чтобы сын служил в горячих точках благодаря бездарной (имперской) политике россиян.

Я не хочу подчиняться беспомощным в экономике людям, неспособным самостоятельно выйти из кризиса.

Я не хочу отставников-пенсионеров со всей России, кроме тех, конечно, кто призывался в Беларуси.

**Без подписи.**

## Кто его уполномачивал дубинками загонять народ в Россию?

Лукашенко длительное время ведет торги с Россией о ликвидации независимости Беларуси. А кто его на это уполномачивал?

Люди имеют Родину и не хотят ее менять на чужую. Это присуще любому нормальному человеку. И, как вы видите, в мире никто, нигде и никогда не чурался своей Родины. Поэтому понять тех, кто жизнь не пожалеет за независимость Беларуси, очень легко.

**Н.Н.ЛУКАНСКИЙ,
участник Великой Отечественной войны.**

Минск.

Знаёмцеся: Алесь Хмыз

## "Саромецца мовы ніколі не буду..."

Аднойчы да нас у рэдакцыю прыйшоў юнак. У руках ён трымаў сшытак са сваімі вершамі. Гаварыў па-беларуску, што сёння, пагадзіцеся, як гэта ні сорамна для беларусаў, з'яўляецца рэдкасцю — асабліва сярод моладзі. Вершы звярталі на сябе ўвагу шчырасцю, у кожным радку адчувалася душа юнака.

Мне захацелася даведацца пра яго — хто ён, адкуль? Здавалася, толькі беларускі вясковец можа так добра размаўляць на роднай мове...

Алесь — так завуць юнака — сказаў, што яму чатырнаццаць год. Нарадзіўся ён зусім не на Беларусі, а ў Крыме. Бацька — малдаванін, маці — беларуска. Калі яму было ўсяго восем, а старэйшай сястры чатырнаццаць гадоў, іх маці памерла. Яе апошнім жаданнем было, каб дзяцей выхоўвалі яе родныя сёстры на радзіме — у Беларусі. Бацька пасля смерці жонкі застаўся на Украіне, а Алесь з сястрой пачалі новае жыццё. Жыццё на Беларусі.

Родныя цёткі Алеся выхоўваюць дзяцей як сваіх родных. Клапоцяцца, каб яны былі накормлены, абуты-апрануты. Юнак вучыцца ў адной са сталічных школ у беларускамоўным класе. Жывучы ў Мінску, ён адчуў патрэбу размаўляць на беларускай мове, пісаць на ёй вершы. Яго самае запаветнае жаданне, каб беларуская мова квітнела і чулася паўсюдна. Менавіта гэтаму ён прысвяціў свой верш **"Роднае слова"** — верш-мару, якой яшчэ належыць збыцца:

*Жывеш незабыўна у вуснах народа,*
*Штодзённа ў жыцці*
*непарыўна гучыш.*
*І колькі акоў на цябе накладалі,*
*Але разарваць усё ж здолела іх...*

*...Усе мы цяпер размаўляем свабодна*
*На роднай мове сваёй.*
*Саромецца мовы ніколі не будзем,*
*Ніколі ў жыцці мы*
*не прымем чужой!*

...Мне было вельмі прыемна пазнаёміцца з такім не зусім звычайным хлопчыкам — сапраўдным патрыётам Беларусі, беларусам па духу і самаўсведамленні. За такой моладдзю — наша будучыня. Такая моладзь — наша надзея.

Я пазнаёміла народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча з хлапчуком і папрасіла, каб ён падтрымаў першыя, яшчэ няўпэўненыя творчыя крокі юнака. І сёння мы друкуем два вершы Алеся, адрэдагаваныя Нілам Гілевічам.

**Таццяна КУЧЫНСКАЯ.**

*Алесь ХМЫЗ*



### Люблю Беларусь

*Я люблю Беларусь маю мілую, —*
*Пушчы, рэкі, азёры, лугі.*
*І людзей яе працу руплівую,*
*Што так хочуць не ведаць тугі.*

*Я люблю Беларусь маю родную,*
*Запаветна шаную зямлю.*
*Самабытную мову свабодную*
*Непарушна і шчыра люблю.*

*Я люблю Беларусь, маю матухну,*
*Што дала мне прытулак, мой кут.*
*І народ, што душу сваю добрую*
*Не счарсцвіў ад бясконцых пакут.*

***1999, травень.***

### Не пакідай!

*Не ад'язджай, брат, з Беларусі,*
*Не пакідай свой родны край.*
*Дзе нарадзіўся, дзе вучыўся,*
*Дзе лёс сустрэў, — не пакідай!*

*Табе тут клопатаў хапае,*
*А там, ты думаеш, лягчэй?*
*Ты не ўжывешся з чужакамі,*
*І будзе ліцца сум з вачэй.*

*Не раз, не два, ўздыхнеш самотны*
*Па беларускай старане,*
*І будзеш бачыць кут свой родны*
*У кожным сне, у кожным сне...*

***1999, верасень.***

Прэм'еры

## "Несыграная роля" і гогалеўшчына

Прэм'ерны паказ дакументальнага фільма рэжысёра Надзеі Гаркуновай "Несыграная роля", прысвечанага заслужанаму артысту Беларусі Віктару Манаеву, адбыўся ў памяшканні Малой сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы. Аператар карціны — Аляксандр Яршоў, музыку напісаў кампазітар Віктар Капыцька.

У інтэрв'ю карэспандэнту Надзея Гаркунова адзначыла: артыст купалаўскага тэатра Віктар Манаеў — асоба неардынарная, глыбокі, думаючы чалавек. Менавіта таму, што ён малады і знаходзіцца ў цудоўнай форме, я пра яго захацела зрабіць фільм.

У карціне "Несыграная роля" маналогі артыста пра сваё жыццё арганічна пераплятаюцца з цытатамі з твораў Гогаля. Па ходзе фільма В.Манаеў пераўвасабляецца ў Акакія Акакіевіча з аповесці "Шынэль" і ягонымі словамі гаворыць пра тое, што хвалюе ўсіх нас. Паводле слоў Н.Гаркуновай, М.В.Гогаль быў выбраны невыпадкова. Ён — любімы аўтар усяго чалавецтва, а тое, што з намі адбывалася і адбываецца, — гогалеўшчына.

Паводле слоў рэжысёра, праца над "Несыгранай роляй" доўжылася сем здымачных дзён на этапах, у розных пор года. Здымкі рабіліся "малымі сродкамі", грунтуючыся выключна на любові здымачнай групы да сваёй справы. Прадугледжваецца, што карціна будзе паказана па Беларускім тэлебачанні.

**Маша ПЯТРОВА, БелаПАН.**

### Спад, змяншэнне...

Спад у сельскай гаспадарцы за 10 месяцаў складае 9,8 працэнта. Перавозкі грузаў скараціліся на 5,1 працэнта, увод у дзеянне жылля паменшыўся на 6,4 працэнта. Інвестыцыі ў асноўны капітал знізіліся на 4,7 працэнта. Спажывецкія цэны з пачатку 1999 года выраслі на 170,3 працэнта, у тым ліку ў кастрычніку — на 14,2 працэнта. Такія папярэднія звесткі Міністэрства статыстыкі і аналізу.

**Сяргей СНЕГІН.**

Погреемся?..

## "Теплое" лицемерие

*Проезжая по одной из центральных улиц города, обратила внимание на огромный плакат, установленный на обочине: "Энергосбережение — забота о будущем наших детей". Каждое слово этой фразы содержит, на мой взгляд, категориальное понятие эпохи.*

### Энергосбережение

Думаю, что никто не станет спорить, что беречь электроэнергию надо, а транжирить ее преступно. Но давайте разберемся, что такое энергосбережение по-белорусски.

Помните мультфильм про козленка-вундеркинда, который несанкционированно обучился устному счету до 10? Это вызвало жуткое раздражение и негодование окружающих: "Он и нас посчитал!!!" Помню, что в детстве я всецело была на стороне любознательного козленка и возмущалась гонениями на него со стороны необразованных сородичей. А вот теперь, когда и нас посчитали, и за нас уже все посчитано — сколько электроэнергии мы можем и должны тратить в месяц, — начинаю понимать, что не так уж они были неправы.

Одна знакомая огорченно говорила мне: "У нас дома стиральная машина-автомат, импортный утюг, микроволновая печь. Все это требует огромного количества энергии. Конечно, мы не уложимся в лимит. Но мы всегда оплачивали все расходы вовремя и считали, что выполняем свой долг перед государством. И вдруг оказывается, что мы уже в начале месяца должники и нас уже заведомо за что-то штрафуют". Я предвижу, что многие (к сожалению) скажут: "И правильно штрафуют. Если они смогли приобрести всю эту технику, которая нам и не снилась, то пусть платят. Нечего плакаться!" Потому как психология нашего человека долгие годы сводилась к формуле: если сосед живет лучше меня — он передо мной виноват. Было бы полбеды, если бы эта формула работала только на уровне кухонно-бытовом. Но это было руководством к действию государства. Не так давно наличие на крестьянском дворе тощей коровенки или захудалой лошадки автоматически заносило его хозяев в разряд "кулаков" и вело к раскулачиванию. Преступным, с точки зрения советской власти, было жить лучше, чем другие. И, по мнению теперешней власти, наличие в семье техники, облегчающей труд хозяйки, дающей ей возможность больше времени уделить семье, детям, сходить в кино, театр или просто отдохнуть, должно наказываться (слава Богу, пока что только материально). Не пришло ли вновь время раскулачивания?



### Забота

В русском языке слово "забота" имеет три толкования. Одно — внимание, попечение, уход. Другое — мысль или деятельность, направленные к благополучию кого-чего-либо. Третье — беспокойство, беспокойное, обременительное дело. Скажите, дорогие читатели, когда вы думаете о том, как посчитать плату за электроэнергию, заполнить несколько квитанций и, наконец, перераспределить семейный бюджет и выкроить незапланированную сумму, какое из значений слова "забота" приходит вам на ум?

### О будущем

Маленький Алеша Пешков, не подозревая еще, что ему предстоит стать великим пролетарским писателем, читал при свете луны, отраженном от начищенной поверхности медной сковороды, потому что скупая хозяйка (кстати, сбережения ради) не давала ему свечей. Возможно, именно это поспособствовало развитию его таланта. Но что-то заставляет усомниться, что энергосбережение по-белорусски приведет к небывалому расцвету национальной литературы.

Многие известные, добившиеся высот в той или иной области деятельности люди, вспоминая о детстве, говорят, что взахлеб читали книги и, когда не хватало дня, продолжали делать это ночью под одеялом при свете фонарика. Причем прятались они не потому, что родители зорко следили, не тратит ли их чадо сверхлимитную электроэнергию, а потому, что те беспокоились о здоровье своих детей. Каждая непрочитанная книжка, каждый потерянный час, который ребенок не потратит на рисование, игру, возможно, ближе подвигают наших детей к улице, где можно занять свое время и приложить свою энергию, до поры до времени не вызывая негодования родителей. А в будущем это зачастую оборачивается гораздо более серьезными и дорогостоящими последствиями, чем экономия электроэнергии в одной отдельно взятой семье.

Если говорить о будущем, то я всегда была убеждена, что будущее нации (а значит, и наших детей) в ее здоровье. О ценах на лекарства и проблемах здравоохранения говорено-переговорено. Значит, единственный выход — не болеть. А как можно спасти ребенка от простуды, когда батареи в квартире "пластмассовой" температуры и столбик термометра обессиленно застревает на отметке 15 градусов. Приходится обогреваться. Чем? Конечно, электрообогревателями. У нас дома двое детей, одному из которых 6 лет, а второй — 6 месяцев. В комнате малышки мы вынуждены постоянно держать включенным масляный обогреватель, иначе она замерзает. В свои полгода она уже переболела острым насморком. Естественно, перерасход электроэнергии составил более чем 100 кВт. В дилемме "энергосбережение" и "здоровье детей" мы, не задумываясь, выбрали последнее. А вот тот, кто придумал энергосбережение, сделал другой выбор.

Государство сберегает, экономя на тепле, тем самым вынуждая нас тратить электроэнергию, за перерасход которой мы же должны платить в 5-кратном размере.

Так о каком будущем мы говорим? Снова о светлом?

### Наших

Честно говоря, не верится мне, что тот, кто ввел в действие понятие "энергосбережение" (по-белорусски), имел в виду наших — то есть моих и своих — детей. Когда я читаю, что огромные предприятия, районы и области в течение многих месяцев не выплачивают миллиарды рублей за потребленную электроэнергию и руководители этих предприятий, районов и областей обращаются к правительству с просьбой отсрочить выплату или вообще простить долг, я начинаю думать, что таинственный генератор афоризмов все-таки имел в виду только моих детей.

Помните известную редукцию еще одного эпохального афоризма: "Экономика должна быть экономной" — "Экономика должна быть" — "Экономика должна". Причем должна именно нам. Но вот казус: платить почему-то должны мы.

Ну что, будем утешать себя мыслью о том, что оплатой электроэнергии в пятикратном размере мы подлатаем дыры в бюджете, образовавшиеся в результате неумного и неумелого руководства, и тем самым поспособствуем процветанию "восьмого чуда света" (рыночно-социалистического)?

### Детей

Знаете, какими словами встречает меня мой шестилетний сын, когда я возвращаюсь с работы? "Мама, а что ты мне купила?" Нормальный вопрос нормального ребенка. Что бы ни происходило в государстве, дети всегда остаются детьми: им хочется чего-нибудь вкусненького, интересненького, новенького. В этом месяце мы заплатили за электроэнергию 854 тысячи рублей вместо 346. Разница в 500 с лишним тысяч. Попробуем прикинуть, чего лишился мой ребенок в результате энергосбережения по-белорусски: 1,5 килограмма бананов, или 10 пакетиков стикерсов, или билета в цирк, или... Мелочи? Согласна. Но, во-первых, я твердо убеждена, что только я могу решать, как тратить деньги на своего ребенка, поскольку я отвечаю за него. А во-вторых, как утверждают психологи, нереализованные (даже самые маленькие) желания детей зачастую приводят к нереализованным возможностям взрослых.

* * *

*Энергосбережение? Забота? О будущем? Наших? Детей?*

*Лицемерие на государственном уровне...*

**Александра ЛОБЗОВА.**
**Коллаж Владимира ПУСТОВАЛОВА.**

## Ячаўскім пявунням апладыравалі і ў Германіі

Роўна дваццаць гадоў таму са знакамітага, старэйшага на Случчыне Казловіцкага народнага хору выдзялілася група маладых спявачак з прыгараднай вёскі Ячава. Кіраваць ёю пагадзілася Людміла Кузьмоўна Калядка, нястомная збіральніца фальклору і здольны арганізатар самадзейнага калектыву, кожны член якога прыйшоў туды са сваімі, пачутымі ад маці ці бабулі, народнымі беларускімі песнямі.

Сёння ў рэпертуары вядомага ў раёне фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Ячаўскія вячоркі" звыш 70 песень, большая частка з іх — народныя.

Нядаўна на восеньскім кірмашы ў Слуцку ячаўскія пявунні далі канцэрт на цэнтральнай плошчы горада і парадавалі ўсіх сваімі яркімі, з багатым на ўзоры арнаментам, строямі, а яшчэ болей — высокім выканаўчым майстэрствам. Нельга было без слёз замілавання, горасці за сваю багатую песенную спадчыну слухаць песні "Каліна", "Ночка цёмная", "Ой, там у полі", "Хадзіла-будзіла", сучасныя — "Братка-беларус", "Што ж ты, дзеўка, рабіла" і іншыя, што гучалі на ўсю плошчу з падмосткаў сцэны. З пяці творчых самадзейных калектываў, што прымалі ўдзел у канцэрце, ячаўскія пявунні атрымалі больш за іншых апладысментаў і падзяк.

Пасля канцэрта Людміла Кузьмоўна распавяла мне, што іх калектыў быў удзельнікам першага Міжнароднага фестывалю фальклорных калектываў у Мінску ў 1994 годзе, Міжнароднага фестывалю Падняпроўя ў Магілёве, на днях культуры Рэспублікі Беларусь ва Узбекістане, а яшчэ на гастролях у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія ў Гановеры.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
**г.Слуцк.**

Супрацоўніцтва

## Каля 100 дакументаў падпісана ў Мінску падчас Дзён латвійскага бізнесу

30 пагадненняў аб супрацоўніцтве і 69 пратаколаў аб намерах па прадаўжэнні дзелавых кантактаў падпісаныя падчас Дзён латвійскага бізнесу ў Мінску, якія завяршыліся 10 лістапада.

Паводле сведчання кіраўніка Мінскага аддзялення Беларускай гандлёва-прамысловай палаты Пятра Юшкевіча, апошнім часам адзначаецца павышаная цікавасць латвійскіх бізнесменаў да супрацоўніцтва з Беларуссю, сведчаннем чаму стаў прыезд у Мінск 61 прадстаўніка латвійскіх прадпрыемстваў і арганізацый. У праведзенай у межах Дзён латвійскага бізнесу біржы кантактаў узялі ўдзел кіраўнікі і спецыялісты 45 латвійскіх і 125 беларускіх прадпрыемстваў з Мінска, Гродна, Віцебска і іншых гарадоў краіны.

Падводзячы вынікі сустрэч і перамоў, латвійскія госці адзначылі высокі ўзровень арганізацыі мерапрыемства і добрыя перспектывы далейшага развіцця двухбаковых адносінаў. На думку дырэктара ТАА "Марскія весткі" з Рыгі Г.Шыманіса, Дні латвійскага бізнесу ў Мінску прайшлі на самым высокім арганізацыйным узроўні і з'явіліся больш выніковымі, чым аналагічныя мерапрыемствы, якія раней адбыліся ў Санкт-Пецярбургу і Казахстане.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

Стоп-кадр



Вот такая необычная трибуна в деревне Лужки Шарковщинского района.

**Фото IREX/ProMedia.**

## За 10 месяцаў 1999 года па лініі крымінальнага вышуку ў краіне было зарэгістравана амаль 77 тысяч злачынстваў

У студзені-кастрычніку 1999 года па лініі крымінальнага вышуку ў краіне было зарэгістравана 76.702 злачынствы, што на 8 працэнтаў больш, чым за аналагічны перыяд 1998 года. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі палкоўнік міліцыі Юрый Гайдаш. Рост, паводле ягоных слоў, больш чым на 90 працэнтаў абумоўлены ростам колькасці маёмасных злачынстваў — рознага кшталту крадзяжоў. Іх зарэгістравана 46.448. Зніжэнне колькасці злачынстваў адбылося па такіх пазіцыях, як забойствы, цяжкія цялесныя пашкоджанні, згвалтаванні і разбойныя напады.

Начальнік УКВ МУС паведаміў, што раскрывальнасць злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку за гэты перыяд склала 69,2 працэнта — на 0,8 працэнта больш, чым за 10 месяцаў 1998 года. Гэтае нязначнае павелічэнне, як патлумачыў Ю.Гайдаш, азначае, у прыватнасці, што супрацоўнікамі міліцыі было ўстаноўлена больш на 4556 грамадзян, якія ўчынілі злачынствы.

У сярэднім аднаму супрацоўніку крымінальнага вышуку, які працуе ў структурах УКВ Мінскай вобласці або Мінска ў год даводзіцца займацца 23—24 злачынствамі, што больш чым у два разы перавышае аптымальную нагрузку (9—11 злачынстваў). Меншая, чым у сярэднім па краіне, нагрузка ў супрацоўнікаў крымінальнага вышуку ў заходніх рэгіёнах краіны, дзе і ўзровень злачыннасці ніжэй.

За 10 месяцаў гэтага года ў злачынцаў было канфіскавана 3659 адзінак зброі, з якіх 367 адзінак баявой (пісталеты, вінтоўкі, аўтаматы, кулямёты) і 3292 адзінак грамадзянскай (у асноўным паляўнічая). Канфіскавана 2073 адзінкі выбуховых рэчываў. Сярод іх 34 гранаты, 10 мін, 213 выбуховых прыладаў, пяць з якіх — самаробныя. Як адзначыў Юрый Гайдаш, існуе ў асноўным два накірункі, па якіх зброя трапляе да злачынцаў. Першы — знойдзеная зброя часоў Вялікай Айчыннай вайны, якая нядрэнна захавалася. Другі — зброя, якая трапіла ў Беларусь з прыбалтыйскіх дзяржаў і Украіны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## У Івацэвіцкім раёне ўрачыста адкрыты мемарыяльны знак у памяць аб знакамітым суайчынніку Тадэвушу Касцюшку

Як паведаміў спецыяліст Брэсцкага абласнога ўпраўлення культуры Леанід Несцярчук, рашэнне аб устаноўцы мемарыяльнага знаку на радзіме Т.Касцюшкі было падпісана старшынёй Брэсцкага аблвыканкама яшчэ на пачатку 1998 года, да пачатку чэрвеня 1998 года планавалася ўстанавіць знак і добраўпарадкаваць месца ягонай ўстаноўкі, аднак працы надта зацягнуліся.

На прэзентацыю ва ўрочышчы Марачоўшчына Косаўскага сельсавета сабралася нямала вядомых журналістаў і краязнаўцаў з Беларусі і Польшчы, аўтар памятнага знаку — брэсцкі архітэктар Аляксандр Лукша, а таксама работнікі ўпраўлення культуры, Івацэвіцкага райвыканкама і Брэсцкага аблвыканкама.

"Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка, славуты сын Беларускай зямлі, які ў далейшым стаў нацыянальным Героем Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, Ганаровым грамадзянінам Францыі", — абвяшчае надпіс на памятнай дошцы. Як патлумачыў Леанід Несцярчук, спачатку мы хацелі выканаць гэты надпіс на некалькіх мовах, аднак улады не далі на гэта "дабро", таму давялося сціпла ўшанаваць памяць знакамітага дзеяча XVIII—XIX стагоддзяў толькі надпісам на роднай беларускай мове.

Некалькі азмрочыла падзею адна непрыемная навіна — Брэсцкі абласны Фонд Тадэвуша Касцюшкі, які вельмі шмат зрабіў для захавання ў памяці нашчадкаў імя славутага ўраджэнца Брэстчыны, не прайшоў перарэгістрацыю. Разам з тым кіраўнік Фонду Леанід Несцярчук не адчайваецца і мае намер рэгістраваць новую арганізацыю, якая таксама мэтай сваёй дзейнасці будзе ставіць вывучэнне жыцця і дзейнасці палітычнага і ваеннага дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, увекавечанне імя Касцюшкі на зямлі, дзе ён нарадзіўся.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

Духовный

# Пьяные большевики закопали священника живым...

*...В городском поселке Шарковщина, находящемся по обоим берегам реки Дисны, возвышаются два храма Божия: на правом — белокаменный, в честь иконы Божией Матери "Всех скорбящих Радость"; на левом — сверкающий чистотой небесной голубизны — в честь Успения Пресвятой Богородицы — Свято-Успенский храм.*

Церковный архив сохранил первое упоминание о Свято-Успенском храме и его приходе, которое относится к 1639 году. К концу XIX века здание Свято-Успенской церкви пришло в упадок и находилось в плачевном состоянии. Вот как описывает его современник: "Старо-Шарковская церковь — одна из самих ветхих и убогих церквей епархии: стены полугнилые, без штукатурки, здание церкви от времени покосилось и до того наклонено на северную сторону, что в предупреждение его возможного падения подперто пятью дубовыми столбами, при сильном ветре все здание трещит и шатается...".

В 1901 году перед Высокопреосвященным Никонором, архиепископом Литовским и Виленским (в то время Дисненский уезд вместе с Шарковщиной входил в состав Литовской епархии), был возбужден вопрос о постройке нового храма. За дело принялся только что вступивший на настоятельское поприще двадцатилетний священник отец Константин Жданов.

Поначалу казалось невозможным и представить, что храм можно возвести за счет приходских средств, ибо прихожане, которых насчитыв[illegible] времени около двух с половиной тысяч душ, находились в крайней бедности по причине повторявшихся уже шесть лет кряду неурожаев. А каких-либо капиталов приход не имел.

Только к 1906 году сомнения развеялись и было получено благословение со стороны епархиального архиерея на образование строительного комплекса, в состав которого вошли все члены причта во главе с настоятелем отцом Константином Ждановым. Затем были получены разрешения на возведение нового храма от Государя императора и Литовской духовной консистории. Чертежи и смета на строительство были разработаны епархиальным архитектором и утверждены строительным отделением Виленского губернского правления в июне 1907 года на общую сумму 15 тысяч 856 рублей. В марте 1908 года приступили к разборке старой, обветшалой церкви, чтобы на ее месте начать строительство нового храма. Проект предусматривал его бревенчатым, утонченных архитектурных форм, на высоком каменном фундаменте, с колокольней во фронтонной части.



Много забот и личного труда в построении храма было вложено отцом Константином. Он был душой всего строительства. Организовал сбор средств среди прихожан, каждый из которых брал обязательство внести по 1 руб. 50 коп. с каждой десятины имевшейся у него земли. Отец Константин наладил сбор камней с полей и доставку их к месту строительства, что осуществлялось крестьянами безвозмездно. Собирали пожертвования на постройку церкви среди своих товарищей — заводских рабочих — также и те прихожане, которые находились на заработках в городе. Для сбора средств на иконостас отец Константин специально выезжал в Москву, где с этой целью посещал дома купцов и других состоятельных людей, осеняя их самих и их жилища напрестольным крестом. Собранных таким образом средств оказалось достаточно, чтобы устроить великолепный с золоченой отделкой иконостас, который находится в храме и поныне. Мало кому известно, что существующий ныне в храме плиточный пол уложен руками отца Константина.

В 1910 году строительство храма было завершено, и он был освящен. В память об этом событии в храме до сего времени хранится икона святого царя Константина. Икона эта имеет особую дарственную надпись следующего содержания: "Сия икона сооружена нами, прихожанами Старо-Шарковской церкви, в благодарное и молитвенное воспоминание нам и нашим потомкам о нашем настоятеле — священнике отце Константине Дмитриевиче Жданове, соорудившем наш сей храм своими заботами и трудами на пожертвования благотворителей, главным образом Московских. Сооружена икона в 1910 году ко дню освящения храма".

По милости Божией, за годы служения в Свято-Успенском приходе отец Константин в полной мере проявил дарованный ему Господом пастырский талант. Среди прихожан из поколения в поколение передается о нем память, как о человеке весьма строгом в вопросах Православной веры, но имевшем при этом добрую отзывчивую душу и милостивое сердце.

Родился отец Константин Жданов в 1875 году вторым ребенком в большой священнической семье, насчитывающей девять детей. Получил духовное образование в Вильно. В мае 1900 года, по кончине своего родного отца протоиерея Димитрия Жданова, был назначен вместо него настоятелем Свято-Успенского прихода.

Вскоре, после рождения в 1902 году единственного сына-первенца по имени Георгий, отец Константин очень рано овдовел. В 1904 году его матушка Анна Степановна отошла ко Господу, имея всего лишь 27 лет от роду. На руках у отца Константина остались, кроме осиротевшего сына Георгия, еще не достигшие совершеннолетия родной брат Ювеналий и родные сестры Любовь и Мария. К нелегким пастырским трудам добавились заботы семейные. Но от этого его любовь к детям и особенно к сиротам только возгоралась. Он помогал всем обездоленным и убогим, и за исполненные требы не только не брал с них никакой платы, но и сам старался снабдить их всем необходимым.



В продолжение восемнадцати лет нес отец Константин свое пастырское послушание. Свято-Успенский приход был первым и, так судил Господь, последним местом его земного служения.

Как и многих других лиц духовного звания, отца Константина арестовали в мае 1918 года. Когда об этом узнали прихожане, они попытались вызволить своего пастыря из неволи, даже предлагая за него выкуп. Их прогоняли, оскорбляли непристойностями, но они продолжали настаивать на своем. Чтобы избавиться от просителей, власти отправили арестованного священника в г. Дисну. Там, вместе с отцом Константином, оказался и священник Язненской церкви отец Михаил Синявский.

Ночью, после пыток и издевательств, обоих обреченных, а также хлопотавших за них женщин повели на расстрел. По дороге женщин расстреляли, а священнослужителей повели дальше. Конвоиры — Фома Ботвиненок, Александр Липский и Михаил Ваштай — были уже сильно пьяны. Путь их лежал через густой кустарник, и отец Михаил предложил отцу Константину бежать. Но тот ответил: "Я никому ничего плохого не сделал, и что Бог пошлет, то и буду терпеть".

Отцу Михаилу удалось скрыться и спрятаться в кустах. Он-то и рассказал людям о последних словах и страданиях отца Константина. Конвоиры заставили его выкопать яму, а затем бросили в нее священника живым. Он поднялся, просил, чтобы его застрелили, но мучители стали бить его лопатой по голове, по рукам, отсекли ему ухо, клочьями вырывали волосы. Оглушенный ударами, отец Константин упал на дно ямы и его забросали землей.

Тем временем, как только отца настоятеля увезли в Дисну, прихожане собрали подписи под прошением отпустить их пастыря, и Мария Леонтьевна Шабловскя, которая вела хозяйство отца Константина, повезла документ в Дисну. Но священника Константина Жданова уже не было в живых. Тогда Мария вместе с Иваном Атрахимовичем и своей сестрой Анной Титович откопали тело настоятели и похоронили его в склепе под алтарем Дисненской кладбищенской Свято-Одигитриевской церкви, где оно покоится и по сей день.

Память об отце Константине Жданове, принявшем мученическую кончину, с необыкновенной теплотой, любовью и благоговением чтится православными Шарковщинской округи.

В память о своем настоятеле-новомученике прихожане поместили на стене храма портрет отца Константина, выполненный на основе сохранившейся фотографии. Начиная с 1995 года, по благословению бывшего тогда на Полоцкой епископской кафедре преосвященного Глеба 3 июня, в день, когда по церковному календарю празднуется память равноапостольных царя Константина и матери его царицы Елены, в храме совершается особое богослужение в честь небесного покровителя священника Константина Жданова. Этот день носит характер храмового праздника.

**Олег САДОВСКИЙ,**
**староста Свято-Успенской церкви г.п.Шарковщина Витебской области.**

